Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



№ 1 (39)



СТУДЗЕНЬ 1936 г.

МЕНСК — 1936

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР



# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 1 (39)

СТУДЗЕНЬ 1936 г.






МЕНСК — 1936

# Пастанова № 2615

## Совета Народных Камісараў Саюза ССР

*ад 7 снежня 1935 г.*

**Аб первічным учоце ў сельсоветах Саюза ССР на 1936 г.**

Совет Народных Камісараў Саюза ССР пастанаўляе:

1. Заставіць на 1936 г. у асноўным існуючы ў бягучым годзе перачэнь форм первічнага ўчота і справаводства сельскіх советаў, зацверджаны пастановай СНК СССР ад 20 лістапада 1934 г.

2. Дазволіць ЦУНХУ унесці ў зацверджаны перачань форм учота і справаводства наступныя далейшыя спрашчэнні і ўдасканаленні, узгодненыя з наркаматамі і ведамствамі Саюза ССР:

а) аб'яднаць пагаспадарчую кнігу ўчота асноўных паказчыкаў гаспадарак з кнігай па ўчоту выканання абавязацельств перад дзяржавай і ў далейшым увесь гэты ўчот па кожнай гаспадарцы весці ў адзіным ліцавым рахунку;

б) для ўчота рабочых, служачых і іншых груп несельскагаспадарчага насельніцтва прымяніць пагаспадарчую кнігу спрошчанай формы;

в) забяспечыць учот часова пражываючага насельніцтва па спрошчанаму спісу;

г) узамен складанай для вядзення кнігі ўчота дзяржаўных падаткаў, страхавых і іншых плацяжоў (ф. № 29) увесці спрошчаную ведамасць разлікаў па здачы ў Дзяржбанк дзяржаўных прыбыткаў, страхавых і іншых плацяжоў;

д) узамен стандартнай формы паведамлення аб плацяжах (ф. 20) прымяняць асобныя бланкі паведамленняў, прыстасаваныя да асаблівасцяў кожнага віда плацяжа і соцыяльных груп платнікаў.

е) для прыёма плацяжоў па звышакладнаму і добраахвотнаму страхаванню ўстанавіць асобную форму квітанцыі:

3. Абавязаць ЦУНХУ зацвердзіць у адпаведнасці з п. 2 гэтай пастановы канчатковы перачань, формы і інструкцыю па вядзенню первічнага ўчота ў сельсоветах і разаслаць яго ўрадам саюзных і аўтаномных рэспублік і крайвыканкомам не пазней 10 снежня г.г.

4. Захаваць на 1936 г. парадак снабжэння сельскіх саветаў кнігамі, бланкамі і інструкцыямі па першчнаму ўчоту і справаводству, а таксама парадак пакрыцця выдаткаў па ізгатаўленню паказаных форм і іх рассылку, устаноўлены СНК СССР пастановай ад 3 снежня 1934 г. № 2663.

Абавязаць СНК саюзных і аўтаномных рэспублік, краявыя і абласныя выканаўчыя камітэты давесці да сельскіх саветаў пагаспадарчыя кнігі і ўсе астатнія формы ўчота з інструкцыямі не пазней 25 снежня 1935 г.

Нам. Старшыні Совета Народных Камісараў
Саюза ССР *В. Чубар.*

Кіраўнік Спраў Совета Народных Камісараў
Саюза ССР *І. Мірошнікаў.*

---

## Выпіска з пастановы Совета Народных Камісараў Саюза ССР № 62

*ад 11/I-1934 года*

**Аб абавязковай агульнай рэгістрацыі прамысловых прадпрыемств соцыялістычнай прамысловасці на 1/I-1934 года**

1. Абавязаць усе прамысловыя прадпрыемствы дзяржаўных, каапрацыйных і грамадскіх арганізацый, пры наліччы ў іх рухавіка (электрычнага, механічнага, ветранога, вадзянога) альбо 3-х (трох) і больш занятых асоб, уключая рабочых на дому, зарэгістрыравацца ў раённых (гарадскіх) інспектароў народна-гаспадарчага ўчота па месцазнаходжанню прадпрыемств і запоўніць устаноўлены бланк рэгістрацыі.

4. Даручыць ЦУНХУ Дзяржплана СССР:

а) распрацаваць праграму бланка рэгістрацыі;

б) устанавіць парадак рэгістрацыі;

в) арганізаваць кантроль выканання гэтай пастановы і праверку правільнасці прадстаўленых прадпрыемствамі даных шляхам спецыяльнага абхода прадпрыемств, ахапіўшы гэтым абходам не менш 50% падлягаючых рэгістрацыі прадпрыемстваў.

5. Абавязаць ЦУНХУ Дзяржплана СССР праводзіць у далейшым рэгістрацыю соцыялістычнай прамысловасці кожныя 2 гады.

6. Абавязаць усе рэспубліканскія, абласныя і раённыя дзяржаўныя, каапрацыйныя і грамадскія арганізацыі прадставіць у адпаведныя рэспубліканскія, абласныя (край) УНХУ альбо рай(гор)інспектарам НХУ спісы сваіх прамысловых прадпрыемств з указаннем точнага адраса, ліка занятых у іх асоб і налічча рухавіка.

7. Устанавіць, што за ўхіленне ад рэгістрацыі альбо несаблюдзенне тэрмінаў кіраўнікі прадпрыемств падвяргаюцца штрафу ў размеры 100 руб.

Даручыць ЦУНХУ прыцягваць да крымінальнай адказнасці кіраўнікоў прадпрыемств, прадставіўшых у бланка рэгістрацыі неправільныя звесткі.

9. СНК Саюзных, рэспубліканскіх і абластных (краявых) выканкомаў выдаць на падставе гэтай пастановы адпаведныя пастановы і апублікаваць іх у мясцовым друку.

Нам. Старшыні Соўнаркома
СССР *Куйбышаў*

---

## Пастанова № 1005

## Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР

**„Аб парадку абавязковай агульнай рэгістрацыі прадпрыемств соцыялістычнай прамысловасці на 1/I-1936 года"**

*г. Масква* *17-га снежня 1935 г.*

1. На аснове пастановы СНК ад 11/I-1934 г. за № 62 прамысловыя прадпрыемствы дзяржаўных, кааперацыйных і грамадскіх арганізацый, абавязаны раз у два гады зарэгістравацца ў органах народна-гаспадарчага ўчота і запоўніць устаноўленыя ЦУНХУ бланкі рэгістрацыі.

2. Рэгістрацыі падлягаюць усе прамысловыя прадпрыемствы паказаных у п. 1 арганізацый, меўшыя механічны, электрычны, вадзяны або ветраны рухавік, або 3-х і больш занятых асоб (уключаючы працуючых на даму) у адным з месяцаў 1935 г. Акрамя таго, рэгістрацыі падлягаюць майстэрні калгасаў, соўгасаў с 1 або 2-мя рабочымі і ўсе маслабойкі, млыны і крупарушкі з конным прыводам.

Рэгістрацыі падлягаюць усе прадпрыемствы паказаных вышэй размераў незалежна ад таго, працуюць яны на продаж або абслугоўваюць сваю арганізацыю.

Рэгістрацыі падлягаюць як самастойныя прадпрыемствы, так і падсобныя прадпрыемствы прамысловага тыпа пры будаўніцтвах, транспартных, гандлёвых і нарыхтоўчых арганізацыях, калгасах, соўгасах, ОРС'ах, ЖАКТ'ах і інш. гаспадарчых арганізацыях, а таксама пры ўстановах і навучальных установах.

Рэгістрацыі падлягаюць прадпрыемствы ўсіх галін дабываючай і перапрацоўваючай прамысловасці, уключая рыбалоўства, перапрацоўку рыбы і лесараспрацоўкі.

Не падлягаюць рэгістрацыі:

а) паляўнічы промысел;

б) прадпрыемствы культурна-бытавога характара, як: цырульні, бані, пральні і г. д.;

в) фатаграфіі,

г) прадпрыемствы па збору і первічнай апрацоўцы ўціля;

д) сыр'явыя базы і склады;

е) Элеватары і амбары для хавання, сушкі і ачысткі зерна;

ж) інкубатары,

з) установы па хімічнай ачыстцы і красільні, працуючыя па індывідуальным заказам;

і) пункты па прыёму індывідуальных заказаў на рамонт і пашыўку, калі ў іх не праводзіцца раскройка і пашыўка.

к) сенапрэсавалкі,

л) фабрыкі механізіраванага лічэння;

м) майстэрні на судах і рамонтныя цягнікі.

3. ЦУНХУ Дзяржплана СССР устанаўлівае наступны парадак рэгістрацыі ў 1936 г.:

а) Усе прадпрыемствы НКТП, НКЛП, НКЛеса і НКПП СССР, Наркаммясцпромаў Саюзных Рэспублік і іх абласных Кіраўніцтв (за выключэннем прадпрыемств РВК і горсоветаў), Галоўнага Кіраўніцтва Фотокінопрамысловасці, паравоза-вагонарамонтныя заводы НКПС, заводы ЦМТ НКПС, заводы Цэнтр. Кіраўніцтва Сувязі і Сігналізацыі НКПС, прадпрыемствы ЦОГ (лясной прамысловасці) НКПС, прадпрыемствы НКСувязі (па асобаму спісу), прадпрыемствы Саюзмехпрома НКУнешгандля, прадпрыемствы Галоўлесупр'а НКЗема СССР, прадпрыемствы Аэрофлота, прадпрыемствы Галоўучцехпрома НКПроса РСФСР і прадпрыемствы трэста Паліграфкніга ОГІЗ'а РСФСР—састаўляючыя гадавыя справаздачы аб асноўнай дзейнасці, прадстаўляюць у обл(край) УНХУ свае гадавыя справаздачы ў парадку, прадугледжаным у адпаведных загадах свайго ведамства і ад рэгістрацыі аслабаняюцца.

Увага: Промпрадпрыемствы бударганізацый і пры будаўніцтвах указаных у п. 3 наркаматаў, а таксама падсобныя прамысловыя прадпрыемствы пры снабжэнчаскіх. гандлёвых арганізацыях, ОРС'ах, даследчых інстытутах, навучальных установах і іншыя падсобныя прадпрыемствы ад рэгістрацыі не аслабаняюцца.

б) вытворчыя арцелі сістэмы Ўсекапрамсовета і Ўсекапрамлессаюза прадстаўляюць у рай(гор) інспектуры НГУ копіі гадавых справаздач (у 2-х экземплярах) па кааператыву і кожнай асобнай вытворчасці і ад рэгістрацыі аслабаняюцца.

Увага: Па ўгледжанню обл(край) УНХУ можа быць устаноўлен парадак цэнтралізаванага атрымання адчотаў арцелей (па кааператыву і асобным вытворчасцям) праз обл(край) Советы і Саюзы.

в) усе астатнія прамысловыя прадпрыемствы, падлягаючыя рэгістрацыі (гл. п. 2) абавязаны ў перыяд з 10/II па 1/III-36 г. зарэгістрыравацца (яўкай або па пошце) у адпаведнай гор(рай) інспектуры НГУ па месцазнаходжанню прадпрыемства і атрымаць для запаўнення ўстаноўленую ЦУНХУ форму рэгістрацыі. Тэрміны прадстаўлення запоўненых форм устанаўлівае рай(гор) інспектура НГУ. Бланкі прадстаўляюцца ў 2-х экземплярах. Прадпрыемствы, зварочваючыяся ў інспектуру НГУ па пошце, павінны паведаміць свой паштовы адрас, род вытворчасці і арганізацыю, якой падпарадкавана прадпрыемства;

г) рэгістрыравацца абавязана кожнае прамысловае прадпрыемства непасрэдна; гаспадарчыя арганізацыі, у веданні якіх знаходзяцца прамысловыя прадпрыемствы, могуць зарэгістрыраваць усе свае прадпрыемствы, але пры ўмове, калі яны прадставяць спіс усіх сваіх прадпрыемств і запоўняць бланкі рэгістрацыі на кожнае свае прадпрыемства паасобку.

Калгасы, соўгасы, каапгасы, арцелі інваліднай каапераацыі, участкі чугуначныя, кіраўніцтвы параходств і партоў і рай-малакоканторы Цэнтрасаюза абавязаны самі зарэгістрыраваць свае прадпрыемствы і запоўніць бланкі рэгістрацыі на кожнае сваё прадпрыемства.

Начальнік Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР *Краваль.*

---

УСЕКАПРОМСОВЕТ
СЕКТАР УЧОТА
І АДЧОТНАСЦІ
№ 35—424
13-га снежня 1935 г.

*Цыркулярна*

**Абласным, краявым і рэспубліканскім Прамсоветам**

**Аб перапісу (рэгістрацыі) прадпрыемств соцыялістычнай прамысловасці па становішчу на 1/I-1936 года**

1. На аснове пастановы Соўнаркома СССР ад 11/I 1936 г. № 62 у 1936 г. будзе праводзіцца перапіс (рэгістрацыя) прамысловых прадпрыемств соцыялістычнай прамысловасці па становішчу на 1/I 1936 г.

2. У адрозніванне ад рэгістрацыі 1934 г. прадпрыемствы Прамкааперацыі ўзамен запаўнення спецыяльных статыстычных бланкаў абавязаны прадставіць копіі сваіх гадавых адчотаў наступным парадкам:

а) Абласныя, краявыя і рэспубліканскія прамсоветы (прамсаюзы) прадстаўляюць у абл.(край) УНХУ зацверджаныя зводныя гадавыя адчоты ў поўным аб'ёме (па ўсім формам) за выключэннем ф. 109.

б) Асобныя промкааператывы прадстаўляюць у рай(гор) інспектуру НГУ не пазней 1/III-1935 г. 2 экз. формы 100 па кааперытыву і ф. 101 па кожнай вытворчасці паасобку. Указаныя формы прадстаўляюцца рай(гор) інспектару НГУ пасля прагляда і зацверджання іх саюзам.

в) Па ўгледжанню з обл(край) УНХУ можа быць устаноўлен парадак цэнтралізаванага атрымання адчотаў асобных кааператываў (па ф. 100 і 101) праз обл(край) і рэсп. прамсоветы.

У гэтым выпадку обл(край) і рэспубліканскія прамсоветы, па ўзгадненню обл(край) УНХУ, павінны даць распараджэнне прамсаюзам аб прадстаўленні двух экземпляраў праверaных і выпраўленых адчотаў кааператываў прамсоветам і здаць іх обл(край) УНХУ.

3. Неабходнай колькасцю чыстых бланкаў для прадстаўлення ўказаных у § 2 форм рай(гор) інспектару НГУ, кааператывы снабжаюцца прамсаюзамі.

У мэтах забеспячэння сістэмы бланкамі ф. 100 і 101 КОІЗ'ам выдаецца дадатковы тыраж гэтых форм. Обл(край) і рэспубліканскія прамсоветы абавязаны выявіць нехапаючую колькасць форм і прадставіць заяўку на іх КОІЗ'у.

4. Калі пры кантролі гадавых адчотаў кааператываў у РІНГУ будзе выяўлена неабходнасць унясення тых або іншых выпраўленняў, то кааператывы абавязаны па патрабаванню інспектара НГУ даваць вычарпальныя тлумачэнні па ўсім узнікаючым сумненням і пытанням, а таксама вытвараць выпраўленні ўсіх дэфектаў, абнаружаных у формах пры кантролі ў РІНГУ, узгадніўшы ўсе змены ў адчоце з міжрайсаюзам.

5. Адначасова з перапісам (рэгістрацыяй) ЦУНХУ Дзяржплана СССР будзе праводзіць бягучы ўчот змен у складзе абсталявання за час з 15/IX-34 г. па 1/I-1936 г. Бягучаму ўчоту змен у складзе абсталявання падлягае кожная асобная вытворчасць кааператыва з электраматорам або первічным рухавіком (за выключэннем вадзянога каляса, ветранога рухавіка і коннага прывода) пры наяўнасці ў іх 50 і больш рабочых. Акрамя таго, пры адсутнасці рухавіка, бягучаму ўчоту падлягаюць шкляныя вытворчасці з генератарнымі пячамі, цагляная вытворчасць з непрарыўна дзейнічаючымі печамі і друкарні з плоскадрукавальнымі машынамі пры наліччы ў іх 50 і больш рабочых.

6. Формы па бягучаму ўчоту абсталявання кааператывы абязаны атрымоўваць у рай(гор) УНХУ.

7. На прамсаюзы і обл(край) і рэспубліканскія прамсоветы ўскладаецца абавязак наглядаць за выкананнем гэтага цыркуляра, г. зн. за прадстаўленнем вышэйпаказаных форм гадавога адчота (100—101) і за складаннем і прадстаўленнем форм бягучага ўчота абсталявання.

Прамсаюзам і обл(край) рэспубліканскім прамсоветам неабходна ўстанавіць сувязь з обл(край) УНХУ і рай(гор) інспектурай НГУ для распрацоўкі мерапрыемств па аказанню

садзейнічання органам НГУ на мясцох па правядзенню бягучага ўчота змен у складзе абсталявання кааператываў і па збору форм гадавых адчотаў.

Згодна п. 7 пастановы СНК СССР ад 11/І-1934 г. за № 62 за ўхіленне ад перапісу (рэгістрацыі) або непрадстаўленне бланкаў да ўстаноўленага тэрміну, кіраўнікі прадпрыемств падвяргаюцца штрафу ў размеры да 100 руб., а за прадстаўленне няверных звестак прыцягваюцца да судовай адказнасці.

Старшыня Прэзідыума Ўсекапромсовета *Васілеўскі.*

Член Прэзідыума *Балотаў.*

Кіраўнік *Салін.*

---

*Цыркулярна*

**Усім абласным, краявым і рэспубліканскім саюзам сістэмы Ўсекапромлессаюза.**

1. На аснове пастановы Соўнаркома СССР ад 11/І-1934 г. № 62 у 1936 г. будзе праводзіцца перапіс (рэгістрацыя) прамысловых прадпрыемств соцыялістычнай прамысловасці па становішчу на 1/І-1936 г.

2. У адрозненне ад рэгістрацыі 1934 г. прадпрыемствы лясной кааперацыі, узамен запаўнення спецыяльных статыстычных бланкаў, абавязаны прадставіць копіі сваіх гадавых адчотаў наступным парадкам:

а) Обл (край) саюзы і рэспубліканскія саюзы прадстаўляюць у Обл (край) УНХУ зацверджаныя зводныя гадавыя адчоты па сваёй сістэме ў поўным аб'ёме (па ўсім формам).

б) Усе промлескааператывы прадстаўляюць у рай (гор) інспектуру НГУ не пазней 1/ІІ 1936 г. 2 экз. адчота кааператыва па форме № 51 (па кааператыву ў цэлым) і адчоты па формам № 52 і 56 па кожнай вытворчасці дрэваапрацоўчай і лесахімічнай галіны асобна і па формам № 53, 54, 55, 57 па адпаведным вытворчасцям.

в) Па ўзгадненню обл. УНХУ з обл. (край) саюзамі можа быць устаноўлен парадак цэнтралізаванага атрымання адчотаў асобных кааператываў праз міжрайсаюзы або обл. саюзы па кааператывам, непасрэдна ўваходзячым у апошнія. У гэтым выпадку міжрайсаюзы (або обл.—край саюзы) абавязаны сцягнуць да сябе адчоты ўсіх кааператываў і пасля кантроля здаць у КНГУ у 2-х экз. адчоты па ф. № 51 па кожнаму кааператыву і па ф. ф. 52, 53, 54, 55, 56 і 57 па адпаведным вытворчасцям кааператыва.

Паказаныя адчоты прадстаўляюцца рай (гор) інспектару НГУ пасля прагляда і зацверджання іх балансавай камісіяй міжрайсаюза (облсаюза).

3. Неабходнай колькасцю чыстых бланкаў для прадстаўлення ўказаных у п. 2 форм рай (гор) інспектару НГУ кааператывы снабжаюцца Облсаюзам і ніякія прэтэнзіі аб адсутнасці бланкаў пад увагу не будуць прыняты і інспектары НГУ да кааператываў, не прадставіўшых указаных у п. 2 форм гадавога адчота, будуць прыменяць меры згодна п. 7 пастановы СНК СССР ад 11/I-34 г. за № 62.

4. Калі пры кантролі гадавых справаздач леспрамкааператываў у РІНГУ будзе выяўлена неабходнасць унясення тых або іншых выпраўленняў, то кааператывы абавязаны па патрабаванню інспектара НГУ даваць вычарпальныя тлумачэнні па ўсім узнікаючым сумненням і пытанням, а таксама вытвараць выпраўленні ўсіх дэфектаў, абнаружаных у адчоце пры кантроле ў РІНГУ, узгадніўшы ўсе змены ў адчоце з міжрайлессаюзам.

Адначасова з перапісам (рэгістрацыяй) ЦУНХУ Дзяржплана СССР будзе праводзіць бягучы ўчот змен у складзе абсталявання за час з 15/IX-34 г. па 1/I 36 г. Бягучаму ўчоту змен у складзе абсталявання падлягае кожная асобная вытворчасць кааператыва з электраматорам або первічным рухавіком (за выключэннем вадзянога каляса, ветранога рухавіка і коннага прывода) пры наліччы ў іх 50 і больш рабочых.

6. Формы бягучаму ўчоту абсталявання леспрамкааператывы абавязаны атрымаць у рай (гор) НГУ.

7. Усім обл (край) саюзам і міжрайлессаюзам прапануецца ўстанавіць сувязь з обл (край) КНГУ і рай (гор) інспектурай НГУ для распрацоўкі мерапрыемств па аказанню садзейнічання органам НГУ на мясцох па правядзенню бягучага ўчота змен у складзе абсталявання кааператываў і па збору форм гадавых адчотаў.

8. Згодна п. 7 пастановы СНК СССР ад 11/I-1934 г. за № 62 за ўхіленне ад перапісу (рэгістрацыі) або непрадстаўленне бланкаў да ўстаноўленага тэрміна, кіраўнікі прадпрыемств падвяргаюцца штрафу ў размеры да 100 руб., а за прадстаўленне неверных звестак прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

Старшыня прэзідыуму Ўсекапрсмсоюза *Капыгін.*

---

## Загад № 191

### Па ЦУНХУ Дзяржплана СССР і па камітэту нарыхтовак пры СНК СССР

*30 снежня 1935 года.*

У 1936 годзе ЦУНХУ Дзяржплана СССР на падставе пастановы СНК ад 11/I-1934 г. праводзіць усеагульны перапіс млыноў і крупарушак па Саюзу. Матэрыялы гэтага перапісу набываюць асаблівае значэнне ў сувязі з усе ўзрастаючым ростам ураджаю зернавых культур і павінны па-

служыць асновай для вырашэння пытанняў аб раёніраванні і рэканструкцыі с.-г. мукамолля ў адпаведнасці з новымі ўмовамі.

Для забеспячэння належнай якасці матэрыялаў перапісу млыноў і крупарушак загадваю:

1. Усім абласным (краявым) і раённым упаўнаважаным Камітэта нарыхтовак устанавіць сувязь з адпаведнымі органамі Наргасучота на мясцох—обл (край) КНГУ і райінспектурамі НГУ —і сумесна з імі выпрацаваць мерапрыемствы, забяспечваючыя поўны ахоп аб'ектаў перапісу і належную якасць матэрыялаў перапісу.

2. Райупаўнаважаным Камітэта нарыхтовак і райінспектурам НГУ правесці ўважлівую праверку бланкаў перапісу па асобным млынам як у райінспектурах НГУ, так шляхам выезда на млыны і праверкі на месцы. Асаблівая ўвага пры праверцы павінна быць звернута на даныя аб вытворчасці млыноў і даныя аб колькасці перапрацаванага зярна ў 1935 годзе.

3. План кантрольных абходаў млыноў складаецца райінспектурамі НГУ сумесна з райупаўнаважанымі Камітэта нарыхтовак і размяркоўваюцца аб'екты наведвання паміж работнікамі райінспектуры НГУ і райупаўнаважанымі Камітэта нарыхтовак.

4. У выніку ўважлівай праверкі ўсе бланкі перапісу на кожны млын павінны быць падпісаны райінспектарам НГУ і райупаўнаважаным Камітэта нарыхтовак.

Начальнік Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР—*Краваль.*

Старшыня Камітэта нарыхтовак пры СНК СССР—*Клейнер.*

---

## Загад № 5

### Па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР

*3 студзеня 1936 года.*

У пачатку 1936 года праводзіцца Усесаюзная рэгістрацыя соцыялістычнай прамысловасці і бягучы ўчот абсталявання.

Матэрыялы гэтых абследванняў будуць шырока выкарыстаны пры падвядзенні вынікаў выканання другога пяцігадовага плана па прамысловасці.

Пагэтаму работа па Усесаюзнай рэгістрацыі прамысловасці і бягучаму ўчоту абсталявання набывае вялікае палітычнае значэнне.

Загадваю:

1. Агульнае кіраўніцтва работай па рэгістрацыі прамысловасці і бягучаму ўчоту абсталявання ажыццяўляць непасрэдна начальнікам обл (край) КНГУ.

2. Не адрываць на іншыя работы работнікаў промсектароў і бюро бягучага ўчота абсталявання ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення абследвання і распрацоўкі асноўных вынікаў.

3. Работнікаў, удзельнічаўшых у перапісу абсталявання і рэгістрацыі соцпрамысловасці ў 1934 годзе ў якасці кіраўнікоў, эканамістаў і інструктароў, працуючых у сучасны момант на іншых работах, на перыяд правядзення абследвання звярнуць у промсектар і бюро бягучага ўчота абсталявання.

4. У перыяд з 15 лютага па 15 сакавіка асноўнай работай усіх раённых і ўчастковых інспектароў лічыць работу па правядзенню рэгістрацыі прамысловасці і бягучаму ўчоту абсталявання.

5. Прыёмку матэрыялаў па гадавым адчотам, рэгістрацыі і бягучаму ўчоту абсталявання ад обл. (край) КНГУ праводзіць у ЦУНХУ непасрэдна па асабістым дакладам нач. обл (край) КНГУ.

6. Сектару кадраў ЦУНХУ у перыяд правядзення рэгістрацыі прампрадпрыемстваў, курсаў па перападрыхтоўцы раённых і ўчастковых інспектароў не склікаць.

7. Забараніць выдаткаванне сродкаў, адпушчаных на рэгістрацыю соцпрамысловасці і бягучы ўчот абсталявання не па прамому назначэнню. Прамсектару ЦУНХУ арганізаваць спецыяльны кантроль за выдаткаваннем сродкаў на мясцах.

Начальнік Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР—*Краваль*.

---

## Загад № 323

### Па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР

*ад 21 снежня 1935 г.*

1. З крэдытаў рэгістрацыі (перапісу) соцпрамысловасці вылучыць фонд у 60.000 руб. для прэміравання работнікаў КНГУ, раённых (гарадскіх) інспектароў і ўчастковых інспектароў Наргасучота за лепшае правядзенне рэгістрацыі, праяўленне асобнай ініцыятывы ў рабоце, ўнясенне каштоўных рацыяналізатарскіх прапаноў, палепшанне арганізацыі працы і ўнядрэння лепшых метадаў работы і забеспячэнне высокай якасці матэрыялаў.

2. Устанавіць наступныя катэгорыі і размеры прэмій:

а) для кіраўнікоў рэгістрацыі ў рэспубліках, абласцях і краях:

| Катэгорыі прэмій | Размер прэмій | Колькасць прэмій |
|---|---|---|
| I | 750 | 1 |
| II | 500 | 3 |
| III | 400 | 10 |

б) для абласных інструктароў:

| Катэгорыі прэмій | Размер прэмій | Колькасць прэмій |
|---|---|---|
| I | 400 | 5 |
| II | 300 | 10 |
| III | 200 | 35 |

в) для раённых (гарадскіх) інспектароў Наргасучота:

| Катэгорыі прэмій | Размер прэмій | Колькасць прэмій |
|---|---|---|
| I | 400 | 5 |
| II | 300 | 10 |
| III | 200 | 20 |
| IV | 150 | 50 |

г) для ўчастковых інспектароў Наргасучота:

| Катэгорыі прэмій | Размер прэмій | Колькасць прэмій |
|---|---|---|
| I | 300 | 10 |
| II | 200 | 30 |
| III | 150 | 40 |
| IV | 100 | 100 |

Нам. Начальніка Цэнтральнага
Кіраўніцтва Народна-гаспадарчага
Ўчота Дзяржплана СССР *А. Папоў.*

---

## Усім інспектарам Наргасучота.

Па прыкладу мінулых год у лютым-сакавіку месяцах 1936 г. будзе праводзіцца даабследванне будаўніцтва, закончанага і знесенага ў 1935 г. і рэгістрацыя будаўніцтва, пераходзячага на 1936 год.

Паспяховасць правядзення гэтай работы ў значнай ступені залежыць ад якасці і тэрміну падрыхтоўчай работы— складання кантрольных спісаў, для чаго было прапанавана прыступіць яшчэ 9-га лістапада 1935 г.

### I. Падрыхтоўчыя работы:

**1. Кантрольны спіс складаецца па форме:**

а) №№ па парадку
б) забудоўшчык

в) адрас (месца знаходжання аб'екта)
г) назва (прызначэнне) аб'екта
д) род будаўнічай работы
е) па якой форме падлягае рэгістрацыі і
ж) у в а г а.

2. Спіс павінен абавязкова складацца так, каб усе аб'-екты былі згрупіраваны вакол свайго забудоўшчыка і будпляцоўкі, а паміж гэтымі групамі (рознымі будпляцоўкамі) трэба астаўляць прамежуткі, каб можна было ўпісаць аб'екты, чаму ліба не ўнесеныя своечасова ў спіс і галоўнае каб можна было ўстанавіць колькасць будпляцовак, падлягаючых рэгістрацыі.

3. Удакладненне кантрольнага спісу будаўніцтва незарэгістрыраванага ў 1935 г., вытвараецца наступным парадкам:

У спіс павінны быць унесены ўсе аб'екты, падлягаючыя рэгістрацыі па ф. ф. 1-н і 1-н (кч), 1-о і 1-о (кч) за 1935 г. Па меры правядзення рэгістрацыі і высвятлення новых аб'-ектаў кантрольны спіс будзе паступова ўдакладняцца, так што да 1/I-1936 г. у спіс павінны быць уключаны ўсе аб'екты, незарэгістрыраваныя на працягу 1935 г.

Крыніцы запаўнення кантрольнага спіса: для выяўлення усіх аб'ектаў, пачатых будаўніцтвам у 1935 г., а таксама і знесеных, павінны выкарыстоўвацца даныя ўсіх аддзелаў РВК, банкаў, цэнтральных раённых устаноў і тытульныя спісы забудоўшчыкаў. Акрамя таго, павінны быць выкарыстаны на ўсе 100%, для выяўлення будаўніцтва шляхам апросаў, усе раённыя нарады (склікаемыя любым аддзелам РВК) і выезды ў раён як раённых, так і ўчастковых інспектароў.

Наогул, не павінна быць прапушчана ні воднай магчымасці, якая дазваляла-б выявіць аб'екты будаўніцтва на тэрыторыі раёна і ўчастка.

4. Складанне канчатковага спіса аб'ектаў, падлягаючых рэгістрацыі як закончаныя ў 1935 годзе і як пераходзячыя на 1936 год, вытвараецца па даным:

а) аб'екты незарэгістрыраваныя ў 1935 гаду па ф. ф. 1-а і 1-н (кч).

б) аб'екты зарэгістрыраваныя ў 1935 г. толькі па ф. ф. 1-н і 1-н (кч).

в) аб'екты зарэгістрыраваныя як перайшоўшыя на 1935 г.

Гэтыя даныя могуць быць вычарпальныя толькі ў тым выпадку, калі поўнасцю выяўлена ўсё будаўніцтва, незарэгістрыраванае на працягу 1935 года.

5. Трэба ў канчатковы спіс унесці таксама і аб'екты, зарэгістрыраваныя на працягу года, як скончаныя. Апошняе пераважна патрэбна для таго, каб пры выкананні даабследвання райінспектар мог лёгка праверыць ці не ў другі раз складзена картка забудоўшчыка на адзін і той-жа аб'ект. Пры ўнясенні ў спіс такіх аб'ектаў, графа „па якой форме падлягае рэгістрацыі" пракрэсліваецца, а ў гр. „увага" робіцца адзнака 1-о, або 1-о (кч) і дата рэгістрацыі.

6. Для дасягнення 100% ахопа рэгістрацыяй калгаснага будаўніцтва ўведзены паведамленні, якія неабходна ўручыць усім калгасам раёна. Запоўненыя паведамленні (у 2-х экземплярах) кожны калгас абавязан прадставіць у райінспектуру не пазней 1/I-1936 г. і яны будуць служыць падставай для складання кантрольнага спіса па калгаснаму будаўніцтву. Па аднаму экз. паведамленняў пасылаецца ў КНГУ разам з кантрольным спісам.

Адначасова рэкамендуецца райінспектарам, якія не змогуць чаму-небудзь атрымаць паведамленняў ад некаторых калгасаў да 1/I-1936 года, увязаць атрыманне паведамленняў аб калгасным будаўніцтве за 1935 г. з работай па перапісу жывёлы.

Паведамленне мае пералік аб'ектаў, перашоўшых з 1934 г. на 1935 г. і пачатых будаўніцтвам у 1935 г. і запаўняецца абавязкова кожным калгасам. Парадак запаўнення надрукован у кожным паведамленні.

Пералічаныя ў паведамленні аб'екты неабходна папярэдне зверыць з карткамі рэгістрацыі па данаму калгасу і зрабіць адпаведныя адзнакі супроць аб'ектаў зарэгістрыраваных на працягу 1935 году. Тыя-ж з аб'ектаў, якія акажуцца зарэгістрыраванымі толькі па ф. 1-п (кч), або 1-н (кч) уносяцца ў спіс для рэгістрацыі іх пры правядзенні даабследавання, а зарэгістрыраваныя па ф. 1-о (кч) на працягу года ўносяцца для праверкі, каб не было падвойнай рэгістрацыі аднаго і таго-ж аб'екта.

Па атрыманні паведамленняў ад калгасу будзе многа выпадкаў калі акажацца, што аб'екты перашоўшыя на 1935 г. незарэгістрыраваны ў райінспектуры. Такія аб'екты ў сучасны момант не павінны рэгістрыравацца як перашоўшыя на 1935 г., а толькі ці як закончаныя (калі яны закончаны ў 35 г.), ці як пераходзячыя на 36 г. (калі яны яшчэ не закончаны да 1/I-36 г.). Супроць такіх аб'ектаў у гр. 4 паведамлення райінспектура адзначае „незарэгістрыраваны“.

Перад інспектурамі ставіцца задача дабіцца, каб кожны калгас даў звесткі па свайму будаўніцтву за 1935 год. Пры наяўнасці такіх даных, безумоўна, аблягчыцца правядзенне даабследвання і рэгістрацыі перашоўшага будаўніцтва і самае галоўнае тое, што ўрад будзе мець поўныя вычарпальныя даныя аб аб'ёме калгаснага будаўніцтва.

7. У асноўным застаюцца ў сіле ўсе ўказанні, даныя у оргплане мінулага года (оргплан даабследвання закончанага і знесенага ў 1934 г. будаўніцтва) за выключэннем глаў 12 і 13; пры гэтым карыстаючыся оргпланам мінулага года трэба усюды замяніць 1933 г. на 1934 г., 1934 г. на 1935 г. і 1935 г. на 1936 г.

8. Нараду са спісам для даабследвання закончанага і пераходзячага будаўніцтва трэба скласці асобны спіс аб'ектаў, знесеных у 1935г.

Выяўленне знесеных аб'ектаў вытвараецца па тым-жа крыніцам, што і аб'ектаў будаўніцтва.

9. Кантрольны спіс павінен складацца райінспектарамі пры максімальным удзеле ўчастковых інспектароў. Складанне канчатковага спіса павінна быць безагаворачна закончана да 1/I-1936 года.

Складзены на падставе паведамленняў ад калгасаў і іншых крыніц спіс звяраецца з данымі банкаў, якія КНГУ дашле у райінспектуру. Дапоўнены данымі КНГУ спіс будзе адзіным кантрольным спісам для кіравання пры выкананні даабследвання і рэгістрацыі пераходзячага будаўніцтва. Адзін экз. канчаткова выверанага кантрольнага спіса райінспектура абавязана даслаць у КНГУ да 15/I-1936 г.

Акрамя таго, неабходна выдаць выпіскі з кантрольнага спіса ўчастковым інспектарам з занясеннем усіх аб'ектаў, знаходзячыхся на тэрыторыі іх участкаў.

Звярочваем увагу на тое, што КНГУ абавязана ў канцы студзеня 1936 г. прадставіць у ЦУНХУ копіі спісаў па ўсім раёнам з указаннем колькасці пляцовак. Пагэтаму пры складанні спіса райінспектары павінны абавязкова прытрымлівацца парадка ўнясення ў спіс аб'ектаў, адзначанага вышэй у п. 2.

Нэогул пытанню складання кантрольнага спіса аб'ектаў будаўніцтва неабходна ўдзяліць самую сур'ёзную увагу, так як поўнасцю ахапіць рэгістрацыяй усе будаўніцтва раёна можна будзе толькі пры наяўнасці дакладна складзенага кантрольнага спіса.

10. У другой палове студзеня райінспектуры павінны правесці праз РВК (Горсовет) пастанову аб правядзенні даабследвання закончанага і знесенага ў 1935 г. і суцэльнай рэгістрацыі пераходзячага на 1936 год будаўніцтва з абавязковым апублікаваннем пастановы ў мясцовым друку.

Пажадана каб у пастанове РВК было адзначана і аб абавязковай рэгістрацыі бягучага будаўніцтва на 1936 год (гл. аб парадку рэгістрацыі будаўніцтва ў 1936 г. адносіну ад 16/XII-35 г.).

Пастанова РВК павінна прадугледжваць меры ўзыскання (штрафы і інш.) за ўхіленне ад рэгістрацыі будаўніцтва. Разам з гэтым у пастанову трэба ўключыць пункт аб тым, што за неправільна даныя звесткі забудоўшчык (ці замяняючая яго асоба) прыцягваецца да адказнасці, згодна пастановы ЦВК СССР ад 27/XI-33 г. за №82/25 н 30 (апублікаванай у газеце „Известия ЦИК СССР“ ад 30/XI-33 г.) Копія пастановы РВК дасылаецца ў КНГУ да 1/II-36 г. разам з паведамленнем аб выпадках налажэння штрафа на працягу 1935г., калі аб гэтым своечасова не была данесена ў КНГУ.

Пры правядзенні гэтай работы трэба мець на ўвазе, што пастановы СПА ад 20/IX-32 г. за №1182 і СНК БССР ад 25/II-33 г. за №211 і ад 22/VI-35 г. за № 951 у роўнай меры датычацца і сістэмы КНГУ, на якую ўскладзена пра-

вядзенне рэгістрацыі і акрамя таго заўважце, што рэгістрацыя буд-ва з'яўляецца неадымнай часткай гадавых адчотаў па капітальнаму буд-ву, як тэхна-эканамічная характарыстыка апошняга (дадатак першы да ф. №13 гад. адчот.)

11. Напамінаем, што неабходна ахапіць поўнасцю рэгістрацыяй прыватнае будаўніцтва ў гарадах і паселішчах гарадскога тыпу (раёнаў, у якіх няма гарадоў і паселішч гарадскога тыпу, гэты пункт не датычыцца). Для гэтага неабходна на падставе даных арганізацый, ведаючых адводам зямельных участкаў і іншых крыніц, скласці дакладны кантрольны спіс па прыватнаму будаўніцтву.

Для папаўнення кантрольнага спісу рэкамендуецца раёнам, якія маюць гарады і паселішча гарадскога тыпу, выкарыстаць таксама даныя бюро інвентарызацыі аб будаўніцтве 1935 года.

12. Падрыхтоўчыя работы пачаць своечасова, што павінна быць залогам паспяховага правядзення даабследвання, будаўніцтва закончанага ў 1935 г. і рэгістрацыі будаўніцтва, пераходзячага на 1936 год, у тэрмін.

На 1/I-1936г. павінна быць данесена КНГУ аб ходзе складання кантрольнага спісу з паведамленнем колькасці калгасаў, прадставіўшых паведамленні аб будаўніцтве 1935 г.

**II. Правядзенне даабследвання закончанага і знесенага ў 1935 г. будаўніцтва і рэгістрацыі пераходзячага на 1936 г. будаўніцтва**

13. Акрамя форм 1—о і 1—о (кч), 1—п і 1—п (кч) уводзіцца яшчэ форма № 8 для будаўніцтва аграмаджанага сектара.

Форма № 8 запаўняецца на ўсе будпляцоўкі забудоўшчыкаў аграмаджанага сектара, акрамя калгасаў, незалежна ад падпарадкаванасці і месца знаходжання будпляцоўкі.

Ф. № 8 мае мэтай выявіць наяўнасць, размер і прычыны разыходжання паміж данымі рэгістрацыі будаўніцтва і данымі гадавога адчота аб фактычных затратах на чыстае будаўніцтва 1935 г.

Як правіла, разыходжання паміж данымі рэгістрацыі і гадавога адчота не павінна быць, але могуць быць выключэнні, прычыны якіх высвятляюцца пры запаўненні ф. № 8.

Ф. № 8 з'яўляецца дапаўненнем для ўсіх картак 1—п і 1—о, запоўненых на аб'екты будпляцоўкі ў парадку даабследвання і рэгістрацыі пераходзячага будаўніцтва. Усе карткі 1—о на аб'екты, зарэгістрыраваныя ў парадку бягучай рэгістрацыі будаўніцтва 1935 года, таксама павінны быць унесены ў ф. № 8.

Пры гэтым, па атрыманні ад забудоўшчыка запоўненай ф. № 8 належыць у гр. 1 (найменаванне аб'екта) паставіць №№ картак 1—о па аб'ектам зарэгістрыраваным і дасланым у КНГУ у парадку бягучай рэгістрацыі будаўніцтва 1935 г.



Даныя аб затратах па такім аб'ектам павінны быць звераны з маючыміся ў райінспектуры карткамі і ў выпадку наяўнасці разыходжання належыць паведаміць аб гэтым КНГУ, каб мы мелі магчымасць зрабіць выпраўленні ў картках, якія знаходзяцца ў нас.

14. Форма № 8 запаўняецца абавязкова і па тым будпляцоўкам, якія не маюць пераходзячага будаўніцтва, па якім усё закончанае будаўніцтва зарэгістрывана ў парадку бягучай рэгістрацыі будаўніцтва ў 1935 г.

Гэта патрэбна для ўдакладнення поўнай фактычнай каштоўнасці аб'ектаў зарэгістрываных на працягу 1935 г. так як фактычная каштоўнасць магла паказвацца без учота неразмеркаваных затрат; гэтыя выдаткі (не размеркав. затраты) звычайна разносяцца на асобныя аб'екты толькі ў канцы года пры складанні гадавога адчота.

Падрабязныя ўказанні аб запаўненні ф. № 8 даюцца ў выглядзе дадатку да інструкцыі па запаўненню ф. ф. 1—0 і 1—п (гл. апошнюю старонку інструкцыі). Там-жа паказан парадак удакладнення фактычных затрат па аб'ектам, скончаным у 1935 годзе і зарэгістрываным на працягу 1935 г. Пры гэтым трэба заўважыць, што затраты на 1/I 35 г. удакладняцца не павінны, як вытвараўшыеся ў 1934 г. і раней, а таму да новай сумы фактычных затрат паказанай у ф. № 8 трэба прыбавіць суму паказаную у гр. 26 карткі 1—о і атрыманую суму праставіць у гр. 27 карткі 1—о.

Па будпляцоўках, якія не маюць закончанага будаўніцтва, а толькі маюць пераходзячае будаўніцтва ф. № 8 таксама павінна запаўняцца.

15. Ф. № 8 запаўняецца і ў тых выпадках, калі будпляцоўка складаецца з аднаго аб'екта. Выключэнне дапускаецца ў адносінах будаўніцтва такіх аддзелаў РВК, як РайАНА, Райздраў і дарожны. Напрыклад: можна дазволіць запаўняць адну ф. № 8 на ўсе школы, падпарадкаваныя РайАНА і будаваўшыяся ў 1935 г., адну ф. № 8 на ўсе больніцы раёна і г. д. У такіх выпадках у ф. № 8 павінны быць пералічаны паасобна кожная школа, паасобна кожная бальніца і г. д.

Наогул, што разумець пад пляцоўкай ясна растлумачана ў інструкцыі да картак 1—п і 1—о (гл. п. 4).

Форма № 8 запаўняецца забудоўшчыкам на кожную будпляцоўку ў 3-х экз. Адзін экз. ф. № 8 застаецца ў забудоўшчыка, адзін застаецца ў райінспектуры, а трэці экз. дасылаецца ў КНГУ разам з карткамі рэгістрацыі будаўніцтва. Пагэтаму забудоўшчыкі аграмаджанага сектара акрамя калгасаў, могуць сабе не астаўляць картак рэгістрацыі, г. зн. запаўняць карткі могуць толькі у 2-х экз. (гл. п. 5 інструкц. да картак 1—п і 1—о), так як у іх павінна застацца ф. № 8 (замест 3-га экз. картак) з пералікам зарэгістрываных аб'ектаў і завераная райінспектурай НГУ.

16. Даабследванне і рэгістрацыя будаўніцтва вытвараецца па становішчу аб'ектаў на 31/XII-35 г.

Тэрмін для правядзення даабследвання і рэгістрацыі будаўніцтва КНГУ паведаміць дадаткова.

Улічваючы, што ў лютым месяцы 1936 г. пачнецца перапіс прамысловых прадпрыемств і што да лютага ўся падрыхтоўчая работа (складанне кантрольных спісаў) для даабследвання і рэгістрацыі будаўніцтва будзе закончана, КНГУ БССР мяркуе правесці даабследванне і рэгістрацыю будаўніцтва разам з перапісам прамысловых прадпрыемств, што з'яўляецца вельмі мэтазгодным, так як пры выкананні гэтых работ прыдзецца мець дачыненне з кожным прадпрыемствам, з кожным калгасам і амаль з усімі ўстановамі і арганізацыямі.

17. У час правядзення даабследвання і рэгістрацыі будаўніцтва матэрыял належыць дасылаць кожныя 3 дні—спешнай поштай, так як КНГУ абавязана ў гэтыя-ж тэрміны пасылаць данясенне ЦУНХУ у разрэзе кожнага раёна.

На працягу 5—8 дзён па сканчэнні даабследвання закончанага і знесенага будаўніцтва 1935 г. і рэгістацыі будаўніцтва, пераходзячага на 1936 год, райінспектура павінна скласці раённую зводку, зацвердзіць яе на прэзідыуме РВК у сэнсе поўнаты ахопа рэгістрацыяй будаўніцтва раёна і пры дакладнай запісцы прадставіць начальніку КНГУ БССР (гл. п. 52—54 аргплана). Форма зводкі будзе своечасова выслана.

18. Усе аб'екты закансерваваныя да 1/I-35 г. і ўжо раз зарэгістрываваныя і знаходзячыяся на кансервацыі на працягу 1935 г. падлягаюць паўторнай рэгістрацыі па становішчу на 1/I-36 г.

Таксама неабходна паўторна зарэгістрываваць няскончаныя на 1/I-36 г. аб'екты з высокім процантам гатоўнасці, зарэгістрываваныя ўжо як пераходзячыя ў мінулыя гады і знаходзячыяся ў эксплаатацыі; такія аб'екты рэгіструюцца па картцы 1—п (гл. п. 22 аргплана), калі маючыяся недадзелкі поўнасцю не закончаны да 1/I-36.

19. У сувязі з тым, што па ўсім аб'ектам калгаснага буд-ва, закончаным у 1935 г. і зарэгістрываваныя на працягу 1935 г. каштоўнасць працадня паказвалася за 1934 г., неабходна пры правядзенні даабследвання закончанага буд-ва 1935 г. па ўсім калгасам, ад якіх паступілі карткі 1-о (кч) у 1935 г. і нават па некаторым, зарэгістрываваўшым закончанае буд-ва 1935 г. у студзені 1936 года—атрымаць даныя аб каштоўнасці аднаго працадня за 1935 г. (п. 12-ты раздзела XV гадавога адчота па калгасу). Гэтыя звесткі павінны быць дасланы ў КНГУ не пазней 1/III-36 г.

Адначасова прапануецца зварочваць увагу на правільнае запаўненне каштоўнасці аднаго працадня ў картках 1-о (кч) і 1-п (кч), а таксама на колькасць затрачаных працадзён. Пападаюцца карткі з каштоўнасцю аднаго працадня ў 8 кап.

10 кап. і г. д., а таксама з лікам затрачаных працадзён у 2000, 3000 дзён і г. д.

Як устаноўлена праверкай, пры запаўненні такіх картак паказвалась няпоўная каштоўнасць працадня. Паказаныя сумы (8—10 кап.) складаліся толькі з грашовай часткі без уключэння каштоўнасці натурвыдач па дзяржаўным цэнам, чым значна паніжаецца каштоўнасць калгаснага будаўніцтва.

Паказанне-ж такой несапраўднай вялікай колькасці затрачаных працадзён (2000—3000) тлумачыцца нядбайнымі адносінамі да даваемых звестак як з боку некаторых забудоўшчыкаў, так з боку райінспектароў, прымаючых такі матэрыял.

Акрамя таго, у дадатак да п. 3 інструкцыі да картак 1—п (кч) і 1-о (кч), паведамляем для ведама тых райінспектур, дзе маюцца гарады і паселішчы гарадскога тыпу, што п. 2 „Тип поселения" у картках 1-п (кч) і 1-о (кч) павінен быць абавязкова запоўнен, так як есць калгасы, якія знаходзяцца на тэрыторыі гарадоў і паселішч гарадскога тыпу.

20. Райінспектуры павінны наладзіць паступленне картак рэгістрацыі праз участковых інспектароў і ад забудоўшчыкаў штодзённа. Паступіўшыя карткі павінны ўважліва кантраліравацца і перасылацца ў КНГУ выверанымі. Вакол гэтага пытання неабходна завастрыць увагу ўчастковых інспектароў. Нельга дапусціць, каб участковы інспектар з'яўляўся простым зборшчыкам матэрыяла і перадатачным пунктам, як гэта, нажаль, мела месца з некаторымі райінспектарамі ў мінулыя гады.

Даныя ўказанні і ўказанні аб парадку рэгістрацыі будаўніцтва ў 1936 г., а таксама і ўсе інструкцыі да картак неабходна райінспектарам прапрацаваць з апаратам інспектуры. Трэба, каб участковыя інспектары добра былі праінструкціраваны і акрамя актыўнага ўдзелу ў зборы матэрыялаў маглі на месцы правяраць яго. Пры такой пастаноўцы значна аблягчыцца праца райінспектуры і КНГУ будзе пазбаўлена лішняй перапіскі па выпраўленню падчас зусім простых пытанняў, як адсутнасць вестак: аб месцы будаўніцтва, аб забудоўшчыку, аб родзе будаўнічай аперацыі, аб прызначэнні аб'екта, аб тэрміне будаўніцтва і г. д.

21. Разам з гэтым трэба сачыць, каб усе аб'екты рэгістрыраваліся па адпаведным формам. Замена адной формы другой, без дазволу КНГУ катэгарычна забараняецца. Усімі формамі райінспектуры забяспечаны.

Усё будаўніцтва аграмаджанага сектара, акрамя калгасаў, якое падлягае рэгістрацыі па ф. 1-о як закончанае павінна рэгістрыравацца па ф. 1-о з клапанам. Пры чым запаўненне клапана (п. п. 69—71) картак 1-о трэба патрабаваць толькі па аб'ектам з каштарыснаю вартасцю па чыстаму будаўніцтву ў 100 тыс. руб. і больш. Па аб'ектам з каштарысам ніжэй 100 тыс. руб. запаўненне п. п. 69—71 картак 1-о непатрэбна.

Усе карткі на аб'екты з каштарысам у 100 тыс. руб. і вышэй без запаўнення п. п. 69—71, будуць адсылацца назад для перасастаўлення.

Не маючы кантрольных спісаў сектар не мог устанавіць сапраўдную колькасць будпляцовак, а таму можа стацца, што не хопіць высланых бланкаў ф. № 8. Пагэтаму, у выпадку недахопа ф. № 8 належыць паведаміць КНГУ і паказаць колькасць патрэбных экземпляраў.

У выпадку недахопа якіх небудзь іншых форм неабходна таксама своечасова паведаміць КНГУ і не дапускаць; каб інспектура заставалася некаторы час зусім без картак і каб з-за адсутнасці картак затрымлівалася правядзенне рэгістрацыі, або прыходзілася рэгістрыраваць не па адпаведным формам. Усе карткі павінны абавязкова быць пранумерованы, напісаны чарніламі выразна і чыста. Усякія папраўкі робяцца толькі ў адпаведным для кожнага пытання месцы. Рабіць папраўкі ў месцах вызначаных для шыфроўкі, а роўна і ўсякія надпісы не дапушчаецца.

22. Зварочваем увагу райінспектур, што ўвесь матэрыял пасля шыфроўкі адпраўляецца КНГУ у ЦУНХУ. Таму ніякіх адхіленняў ад указанняў па запаўненню картак нельга рабіць. Заўважце, што напрыклад, такое месца ў картцы як левы верхні вугал ліцавой старонкі патрэбен для шыфроўкі раёнаў. Тым часам, ад некаторых райінспектур карткі дасылаюцца ў такім выглядзе, што іх нельга скарыстаць: склееныадна з другой, ці прыклееены да адносін, альбо вугал загнут і надорван, або сшыты так, што вугал і некаторыя месцы для шыфроўкі выключаюць магчымасць шыфроўкі і г. д.

Каб пазбавіць КНГУ і райінспектуру ад лішняй і зусім непатрэбнай работы па перапісцы такіх картак райінспектар павінен даць адпаведныя ўказанні і сачыць за іх выкананнем.

*Сектар учота будаўніцтва КНГУ БССР*

---

## Усім раённым і ўчастковым інспектарам Наргасучота.

КНГУ БССР паведамляе, што на падставе цыркуляра ЦУНХУ СССР № 19/83 ад 4/XII-35 г. бягучая рэгістрацыя будаўніцтва 1936 г. будзе вытварацца ў 1936 г. на тых-жа падставах і ў тым-жа парадку, як было да гэтага часу. Выключэннем з'яўляецца толькі рэгістрацыя закончанага будаўніцтва аграмаджанага сектара, акрамя калгасаў, якое на працягу года пры выкананні бягучай рэгістрацыі буд-ва не павінна рэгістрыравацца.

Рэгістрацыі падлягаюць:

а) па аграмаджанаму сектару (акрамя калгасаў)—пачатак будаўніцтва і знос аб'ектаў.

б) па калгасам—пачатак, сканчэнне і знос аб'ектаў.

в) па прыватнаму сектару ў гарадах і паселішчах гарадскога тыпа—пачатак, заканчэнне і знос аб'ектаў.

Пагэтаму прапануецца не спыняць у 1936 г. бягучай рэгістрацыі будаўніцтва 1936 г. і ўдзеліць максімум увагі гэтай рабоце, прымаючы пад увагу, што па калгаснаму будаўніцтву адзінымі данымі па капітальнаму ўкладанню з'яўляюцца даныя бягучай рэгістрацыі будаўніцтва.

Закончанае будаўніцтва аграмаджанага сектара, акрамя калгасаў, будзе рэгістрыравацца адзін раз у год разам з пераходзячым будаўніцтвам.

Начальнік кіраўніцтва
Наргасучота БССР—*Владзімірскі.*

Начальнік сектара
учота буд-ва—*Каштанаў.*

16 снежня 1935 г.

---

КНГУ—БССР

СЕКТАР УЧОТА БУДАЎНІЦТВА

17 студзеня 1936 г.
№ 9
г. Менск

## Усім райінспектурам НГУ

Сектар учота будаўніцтва паведамляе, што пры правядзенні даабследвання будаўніцтва закончанага ў 1935 годзе і рэгістрацыі будаўніцтва пераходзячага на 1936 год, каб падняць якасць матэрыяла, устанаўліваецца аплата за кожную добраякасную поўнацэнную картку, задавальняючую ўсім патрабаванням ЦУНХУ, выходзячы з ніжэй прыведзенага разрахунка.

Аплата за поўнацэнныя бланкі

| Соцыяльныя сектары | У гарадах і насел. гарадскога тыпу | У сельскіх мясцовасцях. |
|---|---|---|
| Аграмаджаны . . . . | 25 к. | Масты і трубы 15 к. а ўсе астатнія аб'екты — 35 к. |
| Калгасны . . . . . | 20 к. | 25 к. |
| Прыватны . . . . . | 30 к. | — |

Да паўнацэнных адносяцца карткі, якія маюць ясныя і дакладныя адказы на ўсе пытанні картак. Пры гэтым, безумоўна, пры кантролі матэрыяла сектар будзе крытычна падыходзіць да ўсіх даных карткі.

Усе карткі павінны быць запоўнены і праверены ў адпаведнасці з інструкцыяй па праверцы картак, змешчанай у зборніку „Регистрация строительных работ", стар. 97, і з нашымі ўказаннямі, данымі ў адносінах ад 17 і 19-га снежня 1935 года і ад 8-га студзеня 1936 года.

Папярэджваем, што да неаплачваемых картак будзем адносіць наступныя:

а) карткі 1-о (кч) на аб'екты, зарэгістрыраваныя на працягу 1935 г. па якім не будуць дасланы звесткі аб каштоўнасці аднаго працадня за 1935 г.

б) дублікаты (втарычныя экземпляры на адзін і той-жа аб'ект);

в) не запісаныя ў рэгістрацыйную кнігу;

г) запоўненыя не на адпаведных формах;

д) запоўненыя карандашом;

е) запоўненыя невыразна і на парваных бланках;

ж) усе тыя карткі, якія для апрацоўкі іх і для адпраўкі ў ЦУНХУ СССР патрабуюць перапіскі ў КНГУ па віне райінспектуры.

Аплата картак не будзе зусім вытварацца тым райінспектурам, якія не выканаюць наступнага:

1. Не прадставяць кантрольнага спіса.

2. Не атрымаюць форму № 8 ад усіх будпляцовак.

3. Не атрымаюць паведамленняў ад усіх калгасаў аб будаўніцтве 1935 года.

4. Не прадставяць зацверджанай РВК (горсоветам) раённай зводкі аб заканчэнні рэгістрацыі будаўніцтва 1935 года.

Прадстаўленне пералічаных матэрыялаў з спазненнем, таксама як і зацяжка ў заканчэнні правядзення даабследвання і рэгістрацыі прымусяць сектар падняць, у кожным асобным выпадку, пытанне аб мэтазгоднасці аплаты работы такіх райінспектур.

Ідучы на сустрэчу райінспектурам у сэнсе дасягнення найбольшай колькасці добраякаснага, паўнацэннага матэрыяла, сектар рэкамендуе хутка і дакладна высвятляць усе пытанні ў сувязі з кантролем картак, так як тыя карткі, на запытанні па якім не будзе атрыман своечасовы вычарпальны адказ, будуць аднесены да непаўнацэнных.

Зварачваем увагу, што ў выпадку немагчымасці даць забудоўшчыкам адказ на тое ці іншае пытанне карткі пры яе запаўненні ці пры вашай праверцы забудоўшчык абавязан даць тлумачэнне ці на самой картцы, у вызначаным для гэтага месцы, ці асобнай адносінай.

Прыміце да ведама, што ўсе паўнацэнныя карткі на закончанае будаўніцтва 1935 г. зарэгістрыраванае на працягу 1935 г. таксама будуць аплочаны.

*Сектар учота будаўніцтва*
*Кір-ва Наргасучота БССР*

---

## Загад № 11

### Па Кіраўніцтву Народна-гаспадарчага Ўчота БССР

*ад 9 студзеня 1936 г.*

У сувязі з прыездам у КНГУ ў студзені б. г. усіх райінспектароў для здачы матэрыялаў па перапісу жывёл загадваю:

